РЕПЛИКА

# АМЕРИКА — НА КОМАРОВКЕ

**Владимир ГОЛУБ, подполковник в отставке.**

После многолетнего перерыва я оказался на главном базаре Беларуси — минской Комаровке: решил шапку купить.

— Сколько твой серый кролик стоит? — спрашиваю у продавца.

— Десять долларов, — отвечает земляк. Иду дальше.

— Сколько за ондатру?

— Шестьдесят доллар, как отдать!

(Я тут ущипнул себя за ухо: не сплю ли я? Только вчера получил письмо от сбежавшего в Нью-Йорк соседа, который время от времени сообщает тамошние цены, для официоза прикладывая старейшую эмигрантскую русскую газету «Новое русское слово». Нет, не сплю, — осознал я.)

— А ты знаешь, Богданкевич постановил: с 1 января в Беларуси цены на товары должны быть только в белорусских рублях? — начал я разъяснять шапочному продавцу «кавказской национальности».

— Нэ знамо Богданкевича. А кто это?

— Это мой бывший коллега по «нархозу», — начал я издалека, — а теперь главный банкир Беларуси — председатель Нацбанка!

— Вот и иды к свой коллега и купи у нэго шапку за твой «зайчик», — просветил меня «иностранец».

...Спадары-товарищи депутаты, а неплохо бы было, если бы вы, сидя в мягких креслах, между чтением газет и пререканиями у микрофонов (если не хватает, видимо, власти у С.А.Богданкевича, издавшего лишь рекомендательное постановление о «рублевых ценах») в целях поднятия авторитета суверенной республики узаконили бы: в Беларуси — белорусский рубль!

В ОБЪЕКТИВЕ — ПОЛЬША

Поляки, за годы инфляции привыкшие зарабатывать и платить миллионы злотых бумажными купюрами, отныне будут вынуждены привыкать к хождению монет. Эти отчеканенные монеты достоинством в 5 злотых приравнены приблизительно к 2 долларам США каждая.

Фото ПАП/ЦАФ — БЕЛИНФОРМ.



ДОСЬЕ «ДВ»

* * *

Вклады населения Беларуси в учреждениях Сберегательного и коммерческих банков составили на 1 января 1995 года 214,7 млрд. рублей, что в 7,9 раза выше уровня 1 января 1994 года.

Цены на потребительские товары и услуги в декабре прошлого года по сравнению с декабрем 1993 года возросли в 23,2 раза. Таким образом, в сопоставимых условиях вклады населения на 1 января 1995 года составили 34,1% к уровню 1 января 1994 года.

РИД.

## *ГОТОВЬ САХАР ЗИМОЙ*

В Беларуси сохраняется напряженное положение с сахаром. В частности, сахарные заводы страны с задержкой производят его отгрузку торговым предприятиям.

По информации, полученной в Минторге, из запланированных в январе-феврале 18 тыс. тонн поставлено только 1,6 тыс. тонн. Причем, без предварительной оплаты отгрузка сахара почти не производится. В связи с этим Министерством торговли направлено письмо заместителю министра экономики Украины о выделении на 1-е полугодие 15 тыс.тонн сладкой продукции из предусмотренных проектом межправительственного соглашения к поставке в Беларусь 40 тыс. тонн.

**Сергей РАСОЛЬКО, РИД.**

## *НА ЕЎРАПЕЙСКІ ЎЗРОВЕНЬ*

Група беларускіх спецыялістаў, якія ўзначальваюць органы сертыфікацыі ў галіне аўтамабілебудавання, накіруецца ў канцы зімы на стажыроўку ў ЗША ў адпаведнасці з праграмай «САБІТ».

Як паведамілі ў Камітэце па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Міністэрства адукацыі і навукі рэспублікі, гэта не адзіная сумесная з замежнымі партнёрамі праграма па перападрыхтоўцы спецыялістаў. Разам з двума нямецкімі інстытутамі («ДІН» — па стандартызацыі і «БАМ» — па падрыхтоўцы інспектараў-аўдытараў) сёлета ў Германіі пройдуць стажыроўку некалькі груп нашых спецыялістаў, якія займаюцца сертыфікацыяй і акрэдытацыяй прадукцыі. Усё гэта будзе накіравана на павышэнне якасці айчыннай вытворчасці і хутчэйшае паступленне беларускіх тавараў на еўрапейскі рынак.

**БЕЛІНФАРМ.**

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ВІДЫ НА ВЫБАРЫ І НА ЎРАДЖАЙ

Цэнтральная Рада Беларускай экалагічнай партыі на сваім чарговым пасяджэнні адобрыла спіс з васьмі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Ён будзе прадстаўлены для зацвярджэння сумеснаму з'езду дзвюх партый — Экалагічнай і «Зялёны свет».

Прынята таксама рашэнне аб правядзенні ў сярэдзіне сакавіка ў Мінску, у памяшканні Дома ветэранаў, сумеснага з таварыствам «Сад» семінара па метаду амерыканскага вучонага Мітлайдара, які дазваляе вырошчваць на прысядзібных участках надзвычай высокія ўраджаі бульбы і іншай агародніны з меншымі затратамі працы. Падобны семінар, праведзены напрыканцы мінулага года ў Гомелі, сабраў аўдыторыю ў 2500 чалавек.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

## СЛУХИ О СОТРУДНИЧЕСТВЕ «ГРАЖДАНСКОГО СОГЛАСИЯ» С ПРЕЗИДЕНТОМ СИЛЬНО ПРЕУВЕЛИЧЕНЫ

Абсурдом назвал член Координационного совета объединенного демократического блока «Гражданское согласие» В.Альфер заявление советника президента по политическим вопросам С.Посохова в интервью Интерфаксу о том, будто свое согласие на сотрудничество с командой президента на предстоящих парламентских выборах дали «центристский блок, партии, в названиях которых есть слова «согласие» и «гражданственность».

По словам Альфера, до сих пор подобных переговоров с представителями президента никто из лидеров партий — участниц «Гражданского согласия» не вел и вести не собирается. По мнению члена Координационного совета блока, данное заявление есть не что иное, как попытка официальных структур дискредитировать и расколоть единое демократическое движение в Беларуси. Официальное опровержение по данному заявлению, как ожидается, будет принято 13 февраля на заседании Координационного совета «Гражданского согласия».

**Александр ПАТУТИН, РИД.**

МНЕНИЕ

# АНТИКРИЗИСНОЙ ПРОГРАММЕ — ВТОРОЕ КРЫЛО

**Сергей НОСОВ, пресс–секретарь Партии поддержки СНГ.**

Большинство оценок антикризисной программы, высказываемых в печати, сводится к тому, что она является мертворожденным детищем и принципиально не способна решать поставленные в ней задачи. По нашему мнению, программа не является абсурдной, она лишь не самодостаточна. Суть программы — снизить уровень инфляции, чтобы пристегнуть экономику Беларуси к российской. А если это не удастся, то хотя бы оздоровить финансы в надежде, что в ближайшее время произойдут изменения в коньюнктуре в лучшую сторону. Сдвиги в коньюнктуре, действительно, начинают происходить. Во время визита Президента в Китай получен заказ для МЗКТ на 500 колесных тягачей.

Это при том, что ныне завод за целый год производит их гораздо меньше!

Оздоровление финансов, связанное со снижением инфляции, — это монетаристский курс, который в странах с развитой рыночной экономикой привел к впечатляющим успехам. Даже в России монетаристская политика Егора Гайдара сбила огонь инфляции и привела страну к лучшим экономическим показателям среди республик бывшего СССР. И это в условиях жесточайшего давления на его кабинет и, следовательно, — вынужденных компромиссов. Отход от монетаризма правительства Виктора Черномырдина привел финансовую систему страны к «черному вторнику».

Жесткая экономия, которую нынешний Кабинет министров Беларуси проводит достаточно решительно, была совершенно необходима. Но в наших условиях она сопряжена с таким обнищанием населения и с такой стагнацией производства, что люди начинают утрачивать чувство перспективы. Терпение их на пределе.

Чтобы взлететь из бездны, экономике нужны два крыла — оздоровление финансов и стимулирование бизнеса. К сожалению, Кабинет министров Михаила Чигиря усердно машет только одним крылом. Считаю, что антикризисная программа должна быть дополнена. Ибо финансы — это только кровеносная система экономики. Откуда же взяться здоровой крови, если не работает «пищеварение»? По нашему мнению, программу нужно дополнить по 2-м направлениям. Первое. Стимулирование бизнеса, производящего конкурентоспособные на рынке СНГ и даже дальнего зарубежья товары народного потребления.

И второе. Необходимо стимулирование экспорта, позволяющее продавать эти товары и завоевывать рынки сбыта, производить, как принято говорить, выталкивание товаров.

Необходимо также пересмотреть налоговую систему, сделав ее более реалистичной. Это значит — снять налоговую удавку с тех, кто способен производить конкурентоспособные товары, и уменьшить сверхприбыль тех, кто живет только перепродажей или госкредитами.

Пока же борьба с инфляцией идет исключительно за счет все большего обнищания населения, непомерного роста цен. Система адресного социального обеспечения практически не работает. Общественный пирог стал настолько тощим, что уже почти нечего делить. Все это чревато мощным социальным взрывом. То, что толерантные белорусы способны на это, показал апрель 1991 года. По данным американской газеты «Уолл-стрит джорнэл», Беларусь постепенно выходит на первое место в бывшем СССР по уровню обнищания населения и развалу экономики. В 1994 г. инфляция в Республике Беларусь составила 3500% по отношению к 1993 году. Это куда больше, чем в России, на Украине, в воюющей Грузии и т.д.! Самый значительный спад производства по СНГ на Украине — 20%. В Беларуси он составил 19%. Загадка столь быстрого падения разгадывается еще одной цифрой — частный бизнес в Республике Беларусь производит лишь 3% валового национального продукта. В то время как в России уже 40%.

Надежды на прогресс экономики Беларуси нужно, считаю, связывать прежде всего с легкой промышленностью, отчасти с сельским хозяйством. Почивший в бозе Советский Союз нагородил здесь мощные пирамиды тяжелой промышленности, которая требует колоссальных затрат сырья и материалов. Реальный выход из кризиса связан поэтому и с глубокими структурными преобразованиями, которые нужно было начинать раньше, когда на это еще имелись средства. За потерю темпа «спасибо» следует сказать правительству Кебича. Теперь речь идет о нашем выживании, о предохранении государства от полного банкротства, а населения — от голода и холода. Поэтому без самой жесткой экономии сегодня не обойтись. Но нужно знать, для чего экономить.

Могучие трудовые ресурсы, высокий культурно-технический уровень населения обязательно «вывезут» Беларусь, быстро поднимут качество нашей жизни. Но только в том случае, если они сольются с широкоразвитым и энергичным частным предпринимательством. На это и должны быть направлены усилия государства — увеличить «пирог», а не делить его тощие объедки. Партия поддержки СНГ считает, что Беларусь в состоянии спасти только политика либерализма, а не кейнсианский курс сохранения квазигосподства государственного распределения.

К сожалению, в самых широких кругах населения господствует убеждение, что развитие бизнеса только увеличивает нищету. В какой-то степени это понимание соответствует действительности. В сложившейся порочной структуре экономики процветают нередко только те предприниматели, которые перераспределяют «пирог» в свою пользу. Для того, чтобы преодолеть подобную ситуацию, необходима государственная программа всесторонней поддержки той части бизнеса, представители которой способны производить конкурентоспособные товары.

НА МІНСКІХ ВУЛІЦАХ

## ПАЧЫНАЕЦЦА ЧАС ПІК

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

ПРАВА

# ЗА РАДКОМ ЗАКОНА

У патоку свят і праблем незаўважанай засталася «маленькая рэвалюцыя», якая адбылася ў рэспубліцы. Цяпер кожны з нас можа выступіць у ролі суддзі не на ўзроўні кухоннага абмеркавання чарговай крымінальнай хронікі, а непасрэдна ў зале пасяджэнняў, маючы для гэтага неабходныя паўнамоцтвы. Так, тое, аб чым доўга спрачаліся прававеды, здзейснілася! Беларускі парламент большасцю галасоў выказаўся за змяненне судовага ладу. І самым важным з гэтых змяненняў, безумоўна, з'яўляецца ўвядзенне суда прысяжных.

Гэты атрыбут дэмакратычнага правасуддзя мы ў свой час называлі «перажыткам», але, на жаль, без яго сляпая Феміда часта аказвалася дастаткова «празорлівай» і ў некаторых выпадках даволі суб'ектыўна адносілася да тых, хто трапляў на лаву падсудных. Можна, вядома, абвінаваціць у гэтым служыцеляў багіні правасуддзя, але корань зла ўсё ж — у сістэме. Вось яе і вырашылі змяніць дэпутаты.

Праўда, суд прысяжных будзе ўведзены з будучага года. А пакуль трэба будзе ажыццявіць падрыхтоўчыя работы. Таму што сёння многія суды проста не маюць памяшканняў, у якіх можна правесці слуханне справы ў прысутнасці прысяжных. Калі ж гаварыць аб працэдуры, то законам яна вызначаецца дастаткова строга. Так, асоба, якая абвінавачваецца па артыкулу, дзе мерай пакарання можа стаць пакаранне смерцю, мае права адмовіцца ад «судовай тройкі» — разгляду справы трыма прафесійнымі суддзямі — і патрабаваць суда прысяжных. І ў гэтым выпадку вердыкт «вінаваты» або «не вінаваты» вынесуць людзі, якім метадам выпадковага адбору будуць дэлегаваны паўнамоцтвы вяршыцеляў правасуддзя.

Па закону, прысяжныя выбіраюцца з ліку законапаслухмяных грамадзян у дзень пачатку судовага пасяджэння. Гэта значыць, імёны сямі ўдзельнікаў працэсу — менавіта такую колькасць прысяжных вызначылі дэпутаты — становяцца вядомымі непасрэдна ў дзень першага слухання справы, і ўплыў «трэцяга боку» на рашэнне, што прымаецца судом, з'яўляецца дастаткова праблематычным.

Умацаванню самастойнасці «трэцяй галіны ўлады» спрыяюць і іншыя артыкулы новага закона. Так, заработную плату суддзям будзе вызначаць Вярхоўны Савет. Зацверджана шкала, па якой зарплата Старшыні Вярхоўнага Суда будзе такая ж, як і ў Старшыні Вярхоўнага Савета, а мінімальны размер заработку радавога суддзі, у сваю чаргу, не апусціцца ніжэй за 50 працэнтаў гэтай сумы.

Да важных сацыяльных гарантый можна аднесці і права на нечарговае атрыманне жылля. Ужо ні выканаўчая, ні прадстаўнічая ўлада не змогуць аказаць націск на суддзю, гуляючы з ім, як кот з мышшу, ў «справе» з кватэрай, паколькі законам вызначана, што суддзя павінен быць забяспечаны жыллём на працягу шасці месяцаў. Ёсць і шэраг іншых гарантый, у тым ліку пенсіённых... Адным словам, незалежнасць судовай улады становіцца рэальнасцю. Ці ж гэта не рэвалюцыя?!

Важныя змяненні адбыліся і ў сістэме ваенных судоў. Да 2000 года ўсе яны павінны быць выведзены са структуры Міністэрства абароны, паколькі судовыя органы на Беларусі становяцца выключна цывільнымі. Такі доўгі тэрмін для ажыццяўлення дадзенага палажэння выкліканы тым, што цяпер ваенныя суды «дыслацыруюцца» на тэрыторыях воінскіх часцей, іх дзейнасць фінансуецца праз ваеннае ведамства, і каб «зламаць» усю гэтую сістэму, неабходны час.

А вось для змянення парадку назначэння суддзяў на пасады часу не трэба. У адпаведнасці з Канстытуцыяй рэспублікі суддзі цяпер будуць назначацца прэзідэнтам. Прычым, сваю пасаду яны атрымліваюць бестэрмінова. Так што служыцелям Феміды прыйдзецца рабіць выбар: або стаяць на варце закона, не хвалюючыся аб дні заўтрашнім, або кіравацца «тэлефонным» правам, рызыкуючы страціць сваю пасаду. Карацей кажучы, страчваць ёсць што, бо ў выпадку, калі суддзя мае 20 гадоў стажу, пры выхадзе ў адстаўку ён пажыццёва будзе атрымліваць 70 працэнтаў свайго былога грашовага ўтрымання, якое, да таго ж, не абкладаецца падаткамі. Пенсіі таксама прадугледжаны даволі высокія — 80 працэнтаў заработку.

Зразумела, што ў такой сітуацыі патрабаванні да суддзяў узрастаюць. Прэтэндэнт на гэтую пасаду павінен мець вышэйшую юрыдычную адукацыю, не менш двух гадоў стажу работы і плюс да таго яму павінна быць больш за 25 гадоў. Значна ўзмоцнена роля кваліфікацыйных камісій з ліку найбольш вопытных і паважаных суддзяў. Так што першы крок да сусветнага вопыту вяршыць правасуддзе — зроблены.

**Святлана КАЛІНКІНА, БЕЛІНФАРМ.**

В РЕДАКЦИЮ ПРИШЛО ПИСЬМО

# НА ПТИЧЬИХ ПРАВАХ, или ИСТОРИЯ ОДНОГО ПОКУШЕНИЯ НА САМОУБИЙСТВО

**Николай БРИКС, «ДВ».**

**Пишет вам Тамара Вячеславовна Ходан, проживающая по адресу: г.Минск, ул.Корженевского, д.11, кв. 21. 8 декабря 1994 г. судебные исполнители Октябрьского нарсуда предприняли попытку выселить меня с детьми и имуществом из квартиры, входящей в подменный фонд Октябрьского ЖРЭО. Заселилась я в нее с разрешения бывшего директора Октябрьского ЖРЭО Чугунова, которого, к сожалению, уже нет в живых. Нынешнее руководство объединения требует моего выселения без предоставления другой жилплощади, потому что я вселилась якобы самовольно. Я написала в Октябрьский нарсуд заявление, в котором указывала, что выселяться из квартиры не буду, т.к. меня незаконно выписали и выселили из квартиры моего мужа. Я также заявила, что в случае применения силы при выселении наложу на себя руки, поскольку нам деваться некуда: я одна с двумя детьми, никому мы не нужны. Муж — хронический алкоголик, с ним я разведена.**

**Во время выселения, доведенная до отчаяния, я вынуждена была пойти на крайний шаг: приняла таблетки — чрезмерную дозу клофелина. «Скорую помощь» вызвала подруга, которая оказалась свидетелем происходящего. Мне успели промыть желудок, иначе последствия были бы печальными.**

**Благодаря мастеру ЖЭС-55 выселение не состоялось. Он отказался взять на хранение мебель, одежду и пр. Но кто знает, что будет в следующий раз, когда придут меня выселять. Как дальше жить, что делать? Ведь я живу в Минске с 1978 года. У меня родились и учатся двое детей. И вот, спустя 16 лет, меня выселяют на улицу. У меня нет денег, чтобы купить комнату или квартиру, снять частное жилье — едва хватает на питание. В Октябрьском райисполкоме ко мне отнеслись равнодушно. На мои просьбы дать хотя бы комнату в общежитии — никто не реагирует. Властям не до меня. Как быть — не знаю. Прошу вашей помощи и очень на вас надеюсь.**

**(Из письма Т.В.ХОДАН)**

Изрядно поплутав в лабиринтах «хрущевской» застройки по улице Корженевского, наконец звоню в злополучную квартиру. Из-за полуоткрытой двери настороженно выглянула невысокая женщина средних лет в домашнем халате. Узнав, что я из редакции, как-то вымученно улыбнулась и пригласила зайти. Ее первая настороженность прошла, быстро завязался разговор. На обшарпанную кухню (впрочем, и вся квартира давно заждалась ремонта), где мы беседовали, несколько раз заходил, прислушиваясь к нашему разговору, болеющий младший сын хозяйки. Но это не мешало горькой «исповеди» Тамары Вячеславовны. Слушал я ее и думал: уж действительно, если пойдет в самом начале жизнь у человека вкось-вкривь, так это надолго, если не навсегда. Хотя поначалу все в минской жизни молоденькой девушки с небольшой железнодорожной станции Новодворцы складывалось так, как ей мечталось. Закончила торговое училище, пошла работать в овощной магазин продавцом, вскоре познакомилась с парнем. Все шло к свадьбе. Но судьба неожиданно нанесла страшный удар, от которого ей вряд ли когда оправиться. Во время поездки в электричке к ее суженому пристала пьяная компания. Завязалась драка. И все — парня не стало. Не успели даже расписаться. Остался сын. Одинокой матери и в старые сытые времена было не сладко. О своих скитаниях с ребенком на руках по частным квартирам, пережитых обидах и унижениях и вспоминать ей не хотелось.

Но в 1986 году судьба смилостивилась над ней. Появился лучик надежды устроить по-человечески свою жизнь. По крайней мере, ей так поначалу показалось. А как иначе? Новый знакомый в ней души не чаял, обещал, как родного, воспитывать ее сына. Поженились, жить стали в двухкомнатной квартире, вместе с матерью и бабушкой мужа. Но бабушка невзлюбила Тамару с первого взгляда. Поначалу подозревала: не от тебя, мол, внучек, она беременна. Но родился сын, и все сомнения рассеялись: он был, как говорится, вылитый папа. Но и это обстоятельство нисколько не убавило бабушкиной неприязни к Тамаре. Свекрови (а она в первые годы очень симпатизировала невестке, всячески ей сочувствовала и помогала) удалось только тайком прописать Тамару с детьми. Узнав об этом, бабушка, хорошо знакомая с законом, затеяла долгую судебную тяжбу и выиграла ее: по решению Октябрьского нарсуда Тамара с детьми была выписана и выселена из квартиры мужа. Она попыталась оспаривать судебное решение в городской, республиканской прокуратурах. Но там оставили его в силе. Иначе и быть не могло: закон запрещает прописку новых членов семьи без согласия всех совершеннолетних квартиронанимателей. Написала она жалобу и в Верховный суд Республики Беларусь. Но, думается, результат будет тот же. Да и ситуация существенно изменилась. Бабушка умерла, но сейчас свекровь (уже бывшая) не хочет даже и слышать о прописке. Впрочем, ее можно понять. Какой ей резон теперь это делать, если семейная жизнь сына явно не сложилась, и развод поставил в ней окончательную точку?

После выселения и развода Тамара Вячеславовна, оказавшись в отчаянном положении, решается на, увы, неправомерные действия — она заселяется в квартиру из подменного фонда Октябрьского ЖРЭО. И ссылка на словесное разрешение ныне покойного бывшего начальника ЖРЭО Чугунова ничего не значит. Вполне можно поверить, что он разрешил ей вселение, но из этого вовсе не следует, что она приобрела право на квартиру. Заселение подменной квартиры без ордера считается незаконным. Так что совершенно естественно, что появилась санкция прокурора о выселении семьи Т.В.Ходан без предоставления жилплощади, а судебные исполнители прибыли для ее выполнения. Им можно только посочувствовать: принудительное выселение матери-одиночки с детьми — очень уж неприятное дело. Но в тоне слов, поведении одного из судебных исполнителей Тамара Вячеславовна усмотрела большую обиду и посчитала, что этим была доведена до попытки самоубийства. Видя все это ей даже не вызвали «скорую помощь»... Так и изложила она в своей жалобе к прокурору. Учитывая противоречивость показаний участников конфликта, мне трудно оценить, насколько обьективны обвинения. Будем надеяться, что прокурорская проверка выяснит их правомерность. Можно только сказать, что, учитывая остроту ситуации, обещания выселяемой наложить на себя руки, эту процедуру следует проводить очень корректно, со всеми мерами предосторожности. Главный инженер ЖРЭО А.И.Лабейко сказал, что административное выселение семьи Т.В.Ходан будет выполнено в ближайшее время. Его понять можно. Только за последнее время были четыре попытки самовольного заселения подменных квартир. И если позволить их захватывать и дальше, — объединение лишится возможности проводить капитальный ремонт старого жилья.

Ну а как быть Тамаре Вячеславовне с двумя малолетними детьми (правда, старший 13-летний сын находится в школе-интернате, но по выходным живет в семье)? Состоятельных родственников у нее нет: отец умер, старший брат погиб, младший — серьезно болен, 72-летняя мать получает мизерную пенсию... И оставить ее семью в таком положении на улице — это будет крайне жестоко. И все же ей бы надо прежде всего самой заняться решением своей жилищной проблемы, а не сидеть безвольно, только угрожая в случае выселения осиротить двоих детей. Конечно, самый лучший вариант был бы восстановить семью и прописаться в квартире мужа. Со стороны поглядеть, так еще не все и потеряно. Он материально помогает растить своего сына. Даже принес на время его болезни вместо неисправного свой телевизор. Но, по словам Тамары Вячеславовны, семейный разлад зашел так далеко, что возврата назад быть не может. Тогда почему бы не попробовать устроиться дворником в Октябрьском ЖРЭО? Этой категории работников, как сказал главный инженер объединения, выделяется жилье. Правда, и на него есть очередь года на три. Но, может, руководство ЖРЭО, учитывая безысходность положения матери-одиночки, могло бы пойти навстречу и предоставить ей на это время хотя бы какое-то, без удобств жилье? Однако Тамара Вячеславовна, зная о такой возможности (бывший директор Чугунов, разрешив вселение, говорил о ней), даже не обратилась с просьбой о трудоустройстве в объединение. Это непонятно. Говорила женщина и о возможности акционерного общества «Тахот», в котором она сейчас работает (там, узнав о ее попытке самоубийства, решили помочь ей), построить для ее семьи однокомнатную кооперативную квартиру по льготной цене. Но надо решать вопрос с пропиской, постановкой в очередь на жилье. Ведь у нее нет ни того, ни другого. А чтобы прописаться, нужно жилье. Словом, получается замкнутый круг. Поскольку обращение в райисполком, по ее словам, ничего не дало, необходимо идти дальше, обратиться за помощью в горисполком. Быть может, для матери-одиночки найдется хотя бы комнатушка в общежитии, которая даст возможность прописаться, стать в очередь на жилье, а после — решать вопрос о строительстве кооперативной квартиры. Как видим, пути решения жилищной проблемы есть. Только не надо сидеть, сложа руки. Ведь под лежачий камень вода не течет.

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

## КЛІЕНТАЎ ЛОВЯЦЬ З ДАПАМОГАЙ СЕТКІ

Каб замацавацца на знешнім рынку і забяспечыць стабільны збыт прадукцыі, Беларускі аўтамабільны завод, Мінскі станкабудаўнічы імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і іншыя прадпрыемствы рэспублікі ствараюць сетку рэгіянальных цэнтраў сервіснага абслугоўвання і гандлю, сумесныя прадпрыемствы.

Так, на базе аўтагаспадарак і апорных пунктаў Мінскага аўтазавода ў розных рэгіёнах былога Саюза існуюць ужо 35 фірменных станцый «МАЗ-сервіс». Толькі праз «СаратаўМАЗсервіс» атрыманы заказ на адначасовую пастаўку 100 машын, праз «КарпатыМАЗсервіс» — больш як 40.

Мінскім маторным заводам створана 12 сумесных прадпрыемстваў па продажы і абслугоўванню рухавікоў у Расіі, Літве, на Украіне. У Маскве, напрыклад, арганізавана СП «Астраінвест» па пераабсталяванню аўтамабіляў «ГАЗ» мінскімі рухавікамі, што дазволіць заказчыкам значна зменшыць расход паліва.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ, БелаПАН.**

